


Другакласнікі з Трасцянкі, як і іх аднагодкі з іншых школ, ужо вывучаюць беларускую мову. А гэты супольны здымак яны вырашылі зрабіць на памяць „Зорцы“. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 42 (1158) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 21.X.1979 г.

# Аб дзяўчынцы, якая наступіла на хлеб

**Паводле казкі Г. Х. Андэрсена**

Жыла на свеце дзяўчынка па імені Інга. Была яна вельмі прыгожанькая, але ганарыстая і бессардэчная. Яшчэ будучы зусім маленькай, яна лавіла мух і жукоў і адрывала ім крылцы. Яе забаўляла, якімі яны рабіліся жаласнымі і бездапаможнымі.

Аднойчы маці Інгі напякла хлеба, падала Інзе вялікую буханку і сказала:

— Занясі, дачушка, гэты хлеб нашай бабулі.

Інга надзела найлепшую сваю сукенку, прыгожыя чаравічкі і пайшла.

Дарога ішла праз балота. Шкада зрабілася Інзе сваіх прыгожанькіх чаравічкаў. Нядоўга думаючы, яна кінула хлеб у гразь і наступіла на яго, каб перайсці праз лужыну.

Але ледзь толькі Інга наступіла на хлеб, як хлеб разам з ёю пачаў тануць у дрыгве. Толькі чорныя пухіры пайшлі па вадзе. А Інга аказалася ў смуродным падзямеллі у Ядавітай Бабы-Балотніцы.

— Эге, — зашыпела Балотніца, — гэта дзяўчынка з задаткамі. З яе будзе цудоўная статуя для майго калідора.

І стала Інга статуяй. Рукі і ногі ў яе скамянелі, і тлустыя павукі аплялі іх сваёй павуцінай. А па твары поўзалі мухі з адарванымі крылцамі.

Пастухі бачылі, што здарылася з Інгай на балоце, і вельмі хутка брадзячыя трубадуры разнеслі па ўсёй краіне Гісторыю аб дзяўчынцы, якая наступіла на хлеб.

Аднойчы гарачая сляза ўпала на галаву Інгі. „Ах! Інга! Ганарыстасць згубіла цябе. Ганарыстасць да дабра не давядзе!“ Гэта плакала маці Інгі. „Што з таго, што маці цяпер плача нада мной“, — думала Інга. І душа яе рабілася ўсё цвярдзейшай.

Аднойчы гэтую гісторыю пачула адна маленькая дзяўчынка.

— Бедная, бедная Інга! — горка заплакала дзяўчынка. — Як бы я хацела, каб яна папрасіла прабачэння і ёй дазволілі вярнуцца на зямлю.

Словы гэтыя дайшлі да сэрца Інгі. Упершыню яна аглянулася на сваё нядобрае жыццё і залілася слязьмі раскаяння.

І ў той жа момант промень святла пранік у смуроднае падзямелле, і Інга маленькай птушачкай вылецела на волю.

Была суровая зіма. Цяжкі час для птушак і звяроў. Маленькая птушачка адшуквала на дарозе зярняткі і акрушкі. Але сама яна з'ядала толькі адно зернятка ў дзень, а ўсё іншае аддавала іншым птушкам.

За зіму птушачка сабрала і раздала столькі зярнятак і акрушак, што разам склалі б яны цэлы хлеб. І калі была знойдзена і аддадзена апошняя крушынка, маленькая птушачка зноў замянілася ў Інгу.

Інга вярнулася ў родны дом. І не было ў той дзень на зямлі больш шчаслівага чалавека, як маці Інгі.

# ЧЫТАЕМ і пішам

# З Ь

З З З З З З З З З З З З

З З Зіна Захар Іра Тама

Вова пытала хто што

тук стук мак смак школа

Зініна мама купіла казу.

за зу зо зы зі замок лаза

Ліза зіма каза казала

ь ь ь ь ь ь ь ь ь ь ь ь ь ь ь ь

рыс рысь стол столь соль конь

Мама клікала Міхаську.

Міхаська, на канькі!

У. Ляўданскі

# Дзядулева тайна

Па даўно няезджанай дарозе, крочылі два чалавекі — стары Хведар Чаўнок і яго самы малодшы ўнук Петрык. Стары нёс на плячах звязаныя ў пук вудзільны, а малы — адмысловы ракітавы кошык з вечкам, у якім былі дзве бляшанкі з чарвякамі, параны гарох, рагулькі, лёскі, адным словам, уся неабходная рыбацкая драбяза.

Наблізіўшыся да лугавіны, якая доўгім языком уразалася ў лес і падзяляла яго на дзве няроўныя часткі, пешаходы перайшлі яе па намошчаных жэрдках і хутка апынуліся на высокім грудку ў сасонніку.

Стары зняў сваю вылінялую ад часу вушанку, выцер ёю рэдзенькія сметанковыя валасы, павярнуўся да Петрыка і запытаў:

— Можа, перадыхнём крыху?

Петрык моўчкі кіўнуў галавою. Стары прыслаціў да сасны вудзільны і памаленьку апусціўся на замшэлы пень.

Навокал панавала ўрачыстая цішыня. Толькі сасновы бор злёгку шумеў верхавінамі, шаптаў аб нечым. Петрык стаяў, удыхаў хвойнае паветра і любаваўся стромкімі дрэвамі, якія ледзь прыкметна кланяліся адно другому. Стары глядзеў не міргаючы ўдалячынь, потым кашлянуў і засмяяўся.

— Чаго вы смяецеся, дзядуля? — пацікавіўся Петрык.

— А нічога, — адказаў стары і зручней прыладзіўся на пяньку. — Успомніў даўнейшае смешнае здарэнне на гэтым грудку.

— Якое?! — загарэўся Петрык і прысеў каля дзеда.

— Бач ты, які цікаўны, — хітравата зірнуў на яго стары. — Гэта, дзяціна, мая тайна. Пра яе яшчэ ніводная жывая душа не дазналася... Так што і табе не варта, мусіць, ведаць...

Петрык нахмурыўся, памаўчаў, а потым недаверліва паглядзеў дзеду ў вочы і запытаўся:

— Здагадваюся, нешта благое?

— Не, не благое, а смешнае, — адказаў стары.

— Ну дык чаму ж тады тайна, калі не благое? — здзівіўся Петрык.

— Таму што і неблагое бывае часамі такім, што людзям не раскажаш — засмяюць.

Петрык са здзіўленнем глядзеў на дзеда. А стары прыжмурыўся, зірнуў на сонца і заспяшаўся:

— Пайшлі, браце, хутчэй, а то акуні без нас занудзіліся.

У Петрыка не выходзіла з галавы дзедава тайна і праз усю дарогу, і на беразе ракі.

Толькі надвячоркам, калі пачала добра брацца рыба, а ў дзеда шчупак рагульку сарваў, якую так і не знайшлі, Петрык на некаторы час забыўся пра тайну. Але як толькі расклалі агонь, ён зноў пачаў прыставаць:

— Дзядуля, раскажыце пра тайну, што здарылася на грудку.

— Ну і смала ж ты, — пакруціў галавой стары. — Ну дык слухай жа: на гэтым грудку я некалі карову з рук выпусціў.

— Вырвалася, значыцца?! — спачувальна ўздыхнуў Петрык.

— Ды не, сам выпусціў.

Петрык з неразуменнем пазіраў на дзеда. А стары пераламаў сухі сук, падкінуў у агонь і працягваў:

— І было гэта, дзяціна, даўно... Табе колькі цяпер гадоў?

— Дванаццаць!

— Ну вось, а мне тады было шаснаццаць... У бацькі нас было дзевяцера, я самы старэйшы...

— І вы, мусіць, кароў пасвілі? — перабіў Петрык.

— Пачакай, пачакай, не спяшайся... ну дык слухай: даўней у нас фальварак панскі быў. Паны, праўда, у ім не жылі ўвесь час, а толькі прыязджалі калі-некалі... Вось аднаго разу ўлетку і прыехала пані са сваімі сынамі. Старэйшы паніч, якога звалі Ромусь, быў ужо ў вайсковым чыне і вельмі любіў паляванне. А тут яму аканом і далажыў, што ў Задуброўі некалькі разоў запар бачылі казулю. Той і загарэўся застрэліць яе.

На другі дзень паклікаў леснікоў, узяў з сабою аканома, і падаліся яны ўсім кагалам у Задуброўе, дзе казуля амаль кожную раніцу выходзіла на канюшыну. Расставіў аканом леснікоў, паніча, вядома, на самым адказным месцы паставіў і запусціў ганчакоў. Сабакі паднялі казулю і пачалі ганяць. А праз некаторы час выгналі на паніча... Бабахнуў паніч па казулі з аднаго, потым з другога ствала, а тая пырснула ў лес і пабегла цалюсенькай у лес.

Назаўтра ўся хеўра зноў выехала на казулю. І зноў яна выскачыла на паніча. Аднак і на гэты раз паніч прамахнуўся. А страляў жа ён на такую блізкую адлегласць, што не вытрымаў і са злосці пабіў стрэльбу аб пень. А ўвечары сабраў дваравых і аб'явіў: хто застрэліць казулю, таму на выбар стрэльбу аддасць, а калі хто часамі жывую даставіць — самую лепшую карову атрымае... Ну, а характар паніча людзі добра ведалі: ужо калі ён сказаў што-небудзь, ці то благое, ці добрае, — абавязкова выканае.

Так што назаўтра ж усе мужыкі і кінуліся ў лес — хто са стрэльбай, а хто і так, з пустымі рукамі.

Хадзілі людзі дзень, хадзілі другі, трэці, а казулі ніхто і ў вочы не бачыў. Як скрозь зямлю правалілася. А праз тыдзень ужо і на-



дзею страцілі, і шукаць перасталі. Рашылі, што яна сышла недзе далёка.

Калі прайшло тыдні са два і гарачка ўлеглася, я рашыў схадзіць у казённшчыну і надраць лазы на лапці. Перабраўся цераз раку па кладцы, мінуў панскі сенакос і падаўся ў казённы лес...

Прабіраюся сабе гушчаром, на малінавыя кусты напароўся, ягад паеў і далей пайшоў.

Раптам у лагчынцы за кустом

*(Працяг на стар. 6)*

*(Працяг са стар. 5)*

# ДЗЯДУЛЕВА ТАЙНА

нешта мільганула. Зірк я, ажно казуля стаіць і пазірае на мяне. Дыханне ў мяне так адразу і заняло ад нечаканасці... Пaглядзелі мы нейкі момант адзін на аднаго, а потым казуля давай тузацца. Бачу, задняя нага ў яе ўшчамілася. Вось тут я кінуўся вопрамеццю да казулі. Схапіў яе за шыю, паваліў і накінуўся ўсім целам. Казуля тузаецца, грабе пярэднімі нагамі, галавой б'ецца аб зямлю, а я трымаю, і ў вачах маіх ужо мільгаюць і новенькая стрэльба і карова...

Неўзабаве казуля прымірылася, відаць, са сваім лёсам і супакоілася. Тады я паціхеньку выцягнуў пояс са штаноў, звязаў ім перш пярэднія ногі, а потым вызваліў з-пад кораня заднюю і заднія прыкруціў да пярэдніх. Узваліў казулю на плечы і гайда дадому...

Ад радасці я і ног пад сабой не чуў, і казуля мне здавалася лёгкай, як пярынка, і ламачча нават знікла пад нагамі. Адным словам я не ішоў, а нейкая неймаверная сіла мяне несла. А ў думках блытаніна страшэнная: што ж лепей узяць за казулю — карову ці стрэльбу?.. Мне тады ж вельмі хацелася панскую дубальтоўку атрымаць і стаць сапраўдным паляўнічым. Але ж як гэта зрабіць? За жывую ж казулю паніч карову абяцаў! І бацька ж ні ў якім разе не згодзіцца на стрэльбу...

І вось тут у мяне прамільгнула думка: а што, калі забіць казулю і нежывую прынесці?! Тады стрэльба забяспечана!..

Узрадаваны сваёй здагадкай, я выйшаў на гэты грудок, паклаў казулю на зямлю, а сам выцер пот, які залівау мне вочы, сеў і мяркую: чым жа яе лепш прыкончыць — нажом ці палкай? Сяджу, выціраюся кашуляй і пазіраю на сваю ахвяру. Казуля таксама глядзіць на мяне неміргаючымі, крыху ашклянелымі вачыма. Не помню, колькі прайшло часу ў такім роздуме, як раптам казуля ўзмахнула рэзка галавою, застрыгла вушамі і так страпянулася, што аж застагнала. У гэты ж момант з-за елачак выскачыла казлянё і стала як укопанае. Казуля яшчэ раз тузанулася, потым супакоілася і павярнула ў мой бок галаву. І тут я ўбачыў, як у яе з вачэй сыплюцца слёзы...

Нешта так моцна здушыла мне горла, што я некаторы момант і дыхнуць не мог. А калі казуля яшчэ раз паглядзела на мяне сваім сумным, безнадзейным позіркам, я ўжо не вытрымаў: усхапіўся, падбег да яе і пачаў развязваць ногі. А яна, небарачка, мусіць, разумела, што я раблю, і два разы цёплым шурпатым язычком лізнула маю руку...

І на душы ў мяне раптам стала лёгка-лёгка. Я нават пра панскае абяцанне забыўся на нейкі час. А калі, вяртаючыся дадому, успомніў, то і рашыў нікому аб гэтым не расказваць. Бо гэта ж вельмі смешна, праўда?

— Што вы, дзядуля, ніколечкі! — са шчырасцю прамовіў Петрык.

— А каб з табой такое здарылася, ты пусціў бы казулю? — раптам запытаўся дзядуля.

— Абавязкова! — падхапіўся Петрык. — Хіба ж можна інакш?

# У трасцянцы

Вучні другога класа дружна ўсталі, каб прывітаць у сябе на ўроку „Зорку“.

„До-о-бры-ы дзень!“

Вясёлыя сімпатычныя тварыкі павернуты да дзвярэй. Вачаняты глядзяць з зацікаўленнем: што ж гэта за пані, і што яна нам скажа?

І вось мы пачынаем сяброўскую размову пра школу, пра буквар, пра „Зорку“. У школе ім добра. Зрэшты, яны ж тут ужо даўно, як вядома, — другакласнікі ж! А буквар? Дык што ж, добрая кніжка, па ім чытаць-пісаць вучацца. Вось ужо літару „ш“ пазнаюць. Нямнога і да канца алфавіта асталося. Але некаторыя ўжо і цяпер умеюць чытаць. Дома яшчэ навучыліся. Ад старэйшых сясцёр і братоў. І вершыкі беларускія ўмеюць. Калі „Зорка“ хоча, нават разам падэкламаваць могуць. Вось хоць бы „Светафор“.

Клас устае. Пад акампаніямент харавога верша дзеці паказваюць рукамі, калі трэба пераходзіць вуліцу, а калі ні ў якім выпадку нельга выходзіць на праезджую частку дарогі. Гэтаму вучыць верш, і дзеці ўжо гэта добра ведаюць. Потым усе разам спяваюць „Заінька, шэранькі...“.

Кожнае дзіця не можа не пахваліцца сшыткам па беларускай мове. Усе стараюцца пісаць прыгожа. Урок ад урока аддзелены каляровай палосачкай: кожная — іншая і ўласнай кампазіцыі. Прыгожа! Стройныя літары ўкладаюцца роўненька, палачка ў палачку.

— Мы яшчэ і ў „Зорцы“ глядзім, як прыгожа пісаць, — кажуць дзеці. — Стараемся так выводзіць літаркі, як там паказана, на трэцяй старонцы. Перапісваем сабе гэта ў сшыткі. Дадаткова. Каб лепей навучыцца пісаць.

Дзеці абяцаюць пісаць пісьмы да „Зоркі“, калі толькі навучацца добра пісаць.

На развітанне мы робім супольны здымак, які вы бачыце на першай старонцы. На памяць „Зорцы“.

Перад выхадам са школы заўважаю тэнісны стол, пры якім хлопцы перакідваюцца мячыкам. Пытаю пра вынікі ў спорце.

І тут аказваецца, што ў школе сапраўды ёсць чым пахваліцца. У тэніс тут гуляюць усе, ад малога да вялікага. Можа таму, што гэта любімы спорт пані дырэктар Марыі Смактуновіч. У школе ўвесь час ідуць нейкія спаборніцтвы ў гэтай галіне — то паміж хлопцамі, то паміж дзяўчатамі, то ў дзявочахлапечых парах і іншыя.

І ёсць вынікі. Малгажата Дрэўноўская заняла першае месца нават у ваяводскім класіфікацыйным турніры па сталоваму тэнісу; Янка Нікалаюк — чацвертае месца, а Віктар Грыгарук — пятае. Столькі добрых месц на ваяводскім турніры — гэта ўжо вялікае дасягненне школы.

**Яніна Чэрнякевіч**

# Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 2, кв. 66. Алла Чаусава, вучаніца 4 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 3, кв. 12. Наташа Касарына, вучаніца 4 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 11, кв. 32. Лена Пекарчык.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, пер. Куйбышава, 27. Святлана Стрык, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Чырвонаармейская, 42, кв. 53. Юрка Балкунец, вучань 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, пер. Таўлая, 8. Валерый Цупрык, вучань 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231822, Жыровічы, Гродзенскай вобласці, Слонімскага раёна, вул. Пагранічнікаў, 4. Надзежда Архіп, вучаніца 8 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Сацыялістычная, 38. Тамара Мекеко, вучаніца 8 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, пер. Доўгі, 12, кв. 1. Таня Хомчык, вучаніца 10 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. 1-й сямігодкі, 18, кв. 25. Лена Блізнюк, вучаніца 10 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Чырвонаармейская, 70, кв. 20. Наташа Кручкова, вучаніца 10 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2 Гродзенскай вобласці, вул. Загарадная, 50, кв. 2. Аксана Булыга, вучаніца 5 класа.

* ✲ *

СССР, 300005, Тула, Мясниково, 4 проезд, д. 66, кв. 50. Орловой Наташе. Дзяўчынцы 10 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2-гі Дамашэўскі пер., 3, кв. 1. Юля Палікарпава, вучаніца пятага класа.

## АДГАДАНКА















**Якая з чатырох кветак адлюстравана ў рамцы?**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**